


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (1112) ГОД XXII БЕЛАСТОК 19 ЧЭРВЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## З рэпарцёрскіх запісак

## У нядзелю 1941 г.

Калі ў нядзелю на досвітку разбудзілі нас бомбы, мне ўсё яшчэ здавалася, што я гляджу фільм пра Чапаева — першы фільм у маім жыцці, які напярэдадні паказвалі ў нашай вёсцы чырвонаармейцы. А гэта ўжо гітлераўская авіяцыя бамбіла чыгуначную вузлавую станцыю ў Чаромсе, да якой ад нас усяго дзесяць кіламетраў.

* ✲ *

Метраў у дваццаці ад бацькавай хаты пачынаўся супольны вясковы выган. У канцы вёскі стаяў крыж. Ля гэтага крыжа на разгалінаванні дарог, выгнаўшы кароў і коней на выган, збіраліся сяляне, каб супольна абмеркаваць вясковыя навіны.

У гэтую раніцу таксама ля крыжа сабраўся натоўп. Людзі меркавалі, што, уласна кажучы, дзеецца на свеце. Найбольш сялян лічыла, што гэта „манёўры“.

Каля абеду ў вёску прыімчаліся два савецкія танкі. Адзін размясціўся ля нашай хаты пад старым разгалістым ясенем. Зараз жа за імі паявіліся чырвонаармейцы ў сіле не больш аднаго батальёна. Сяляне напаілі іх малаком, накармілі хлебам і яйкамі. Яны аддзякавалі нам вялізнымі кускамі цукру. І тады ўсё ўжо стала вядома.

* ✲ *

У нашай школе працавалі настаўніцамі дзве маладзенькія „саветкі“. Так гэтых вельмі сімпатычных дзяўчат называлі ў нас у вёсцы. Адна (забыў, на жаль яе прозвішча) недзе з-пад Пінска, а другая, Марыся, здаецца, Якаўлеўна, — з Гомеля.

Тая, з-пад Пінска, паспела выехаць да бацькоў яшчэ ў суботу, а Марыся асталася. Вось і прыбегла да майго бацькі (які таксама тады настаўнічаў у роднай вёсцы) за парадай, што ёй рабіць. Яшчэ цяпер памятаю яе перапалоханы твар і заплаканыя вочы. Дагэтуль я ніколі яе такой не бачыў. Была нашым класным кіраўніком. Заўсёды бадзёрая, вясёлая, любіла спяваць і чытаць вершы. А цяпер сядзела ў нашай хаце, як загубленае дзіцё.

Пасля вайны даведаліся мы, што наша настаўніца зноў вучыць дзяцей у родным Гомелі, што ў час акупацыі была слаўнай партызанкай, даслужылася нават афіцэрскага звання.

(Працяг на стар. 4)

## Праз тыдзень у „Ніве“





*Квартэт з Орлі, які заняў першае месца ў катэгорыі калектываў. А Аліна Рагоза (другая злева) — I месца сярод салістаў.*

**„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77“ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ**

## Нарэшце добры рэпертуар

У апошнюю нядзелю мая ў зале Галоўнага праўлення БГКТ адбыўся чарговы, штогадовы конкурс „Беларуская песня — 77“ для школьнікаў.

Прыехала шмат дзяцей. Кожны падрыхтаваў па дзве песні ці то сола, ці ў дуэце, ці ў калектыве. Усім хацелася добра выступіць.

І амаль усім гэта ўдалося. Член журы, вядомы ў нашым асяроддзі спецыяліст у галіне музыкі Людміла Панько толькі ўздыхала: „Вось каб у мой хор хоць парачку такіх галасочкаў“. А калі выйшла на сцэну і заспявала малюсенькая, хоць ужо другакласніца з Чыжоў Галінка Якімюк, зала ўзнагародзіла яе такімі апладысментамі, якіх не атрымаў ніхто. А Людміла Панько не вытрымала, праслязілася. „Якое цудоўнае дзіця!“ — сказала яна. Галінка Якімюк атрымала ўзнагароду „Зоркі“.

Падабаліся гледачам (журы — таксама) Аліна Рагоза з Орлі (заняла I месца сярод салістаў), Антаніна Назарук са Старакорніна і невялічкая Ірэнка Рашчэнка з Дашоў. Дзве першыя здзівілі слухачоў сваім моцным альтам, а Ірэнка — спеўным галаском на высокіх нотах. Два трэція месцы прызнаны Галіне Сцепанюк з Чыжоў і Аліне Бурыла з Маліннікаў.

Хлопцы ў сольных нумарах выступалі выключна з уласнымі акардэонамі. Ігралі цудоўна, весялілі гледачоў. Шкада, што гэта быў конкурс песні і ацэньваць трэба было спеў, а не ігру на акардэоне. Спадабаўся Ярэк Майстровіч з Кляшчэляў і Юрка Галёнка з Дубічаў-Царкоўных.

Прыемную неспадзеўку зрабіла школа ў Старым Ляўкове, прыслаўшы на конкурс цэлы дзявочы хор. Прыгожая, зладжаная група.

А калі заспяваў квартэт з Орлі, мне здалося раптам, што ліецца песня над палямі. Такая цёплая, прылюдная мелодыя аб ружы-кветцы. А галасы моцныя, народныя. Спявалі дзяўчаткі так, як спяваюць вясковым надвячоркам, вяртаючыся з поля ці сенажаці.

Не магу не падкрэсліць, што ў сёлетнім конкурсе, як ніколі раней, амаль усе пастараліся падабраць новыя, маලавядомыя песні. Рэпертуар стаў вельмі багаты і розны. Былі тут і народныя, і патрыятычныя, і жартоўныя, і сур'ёзныя песні. Паявіліся нават сапраўды дзіцячыя песенькі, як „Ветрык“, які ў „Зорцы друкаваўся не так даўно. І прыемна было глядзець і слухаць, што песні адпавядаюць узросту дзіцяці. І тады ўжо дзіця застаецца самім сабой, а не вымушана строіць з сябе дарослую дзяўчыну, якая ўздыхае аб каханні.

Упершыню мне выпадае сказаць столькі добрых слоў аб рэпертуары, і раблю гэта з незвычайнай прыемнасцю.

Менш прыемна мне паведамляць аб тым, што з больш 70 школ, у якіх вывучаецца беларуская мова, на конкурс песні ў гэтым годзе прыехалі дзеці толькі з дзесяці. Думаю, што ў кожнай школе знайшліся б дзеці з добрымі галасамі і ахвотныя спяваць беларускія песні на конкурсе. Бо і ўсюды ж іх спяваюць у нашых вёсках. А прыехалі з тых школ, дзе пастараліся настаўнікі. Можна разумець некаторых настаўнікаў, асабліва тых, што яшчэ вучацца: якраз у маі найбольш працы з гадавы-

(Працяг на стар. 3)

## Жменька лясных праблемаў

Раніцай у надлясніцтве Жэдня не моўкнуць радыётэлефон і тэлефон. Надляснічы **Славамір Пашкевіч** і яго намеснік **Мар'ян Дадура** дваяцца і траяцца, прымаючы шэраг неадкладных рашэнняў і даючы дзесяткі загадаў, нервуюцца і перажываюць. Што ж, „уладанні“ надлясніцтва не маленькія: праціраюцца яны ад Цілічанкі над ракою Супраслю на поўначы да мястэчка Нарва на поўдні, ад Цісоўкі і Залешан на дзяржаўнай граніцы на ўсходзе і да Займы на рацэ Плоскай пад Беластокам на захадзе. Разам 20 тысяч гектараў дзяржаўных і 9 тысяч гектараў сялянскіх лясоў. Ёсць каля чаго пахадзіць, асабліва калі ўсё гэта пашаткавана на тысячу кавалкаў і кавалачкаў.

На першы погляд, здавалася б, якія там могуць быць праблемы з лесам? Усё ж зводзіцца да некалькі дзеянняў: пасадзіць, дагледзець, ахоўваць ды ссячы і вывезці. Але, аказваецца, гэта не так усё проста. У беспаваротную даўнасць адышлі тыя часы, калі ў тутэйшых ваколіцах ахвотных да працы ў лесе было хоць адбаўляй. Цяпер у выніку адыходу моладзі з вёскі і высокіх заробкаў у прамысловасці і паслугах вельмі цяжка знайсці людзей для лясных работ. Але зроблены ўжо першыя крокі ў кірунку стварэння ўласных кадраў сталых лясных рабочых: у бліжэйшым часе ў Жэдні паўстане рабочы пасёлак з чатырох дамоў на дванаццаць сем'яў, будзе весціся будаўніцтва жылых дамоў у Міхалове і Каралёвым Мосце. Хоць і са слязінкай жалю ў воку, але трэба нам назаўсёды развітацца з маляўнічым абразком ціхенькай леснічоўкі, скрытай пад разгалістымі дубамі ды елкамі ў лясных нетрах. Такія паэтычныя чароўнасці знікаюць з нашых лясоў па вельмі празаічнай прычыне: ніхто не хоча ў іх жыць! Працаўнікі лесу горнуцца да вялікіх паселішчаў, дзе ёсць сувязь з горадам, школа для дзяцей, крамы з харчамі і прамысловымі вырабамі, электрычнасць для асвятлення і хатняга абсталявання і г.д. Усё гэта вымагае прымянення ў лесе шырокай механізацыі і штодзённага давозу працаўнікоў на месца работы часам на адлегласць 20-30 кіламетраў. І тут вырасла праблема пракладкі ладных лясных дарог. На гэта ёсць грошы і матэрыялы, але ўсе будаўнічыя прадпрыемствы, як агню, баяцца брацца за работу ў лясной глушы. Зрэшты, яны маюць поўныя рукі заказаў у гарадах і мястэчках.

З году ў год жэдненскаму надлясніцтву прыбывае новых пасадак 300 га на дзяржаўных грунтах і 110 га на сялянскіх. Усю весну С. Пашкевічу і М. Дадуру ўсе ночы навылет сняцца сучасныя машыны для пасадкі лесу, але на яве даводзіцца ім звяртацца з бясконцымі просьбамі ў школы і розныя ўстановы, каб дапамаглі садзіць лес

(Працяг на стар. 4)



*Надляснічы С. Пашкевіч.*




### ЮБІЛЕЙНЫЯ РАХУНКІ

Не так даўно ў Англіі адбылася чарговая ўрачыстасць каралеўскага дома — 25-гадовы юбілей з дня ўступлення на трон каралевы Елізаветы II. У друку гэты юбілей адзначаўся пад знакам праслаўлення працаздольнасці і працалюбства гэтай нястомнай дзяржаўнай жанчыны. У прыватнасці, здзіўленыя статысты і журналісты падлічылі, што за мінулыя дваццаць пяць гадоў каралева Елізавета II прыняла 125 візітаў кіраўнікоў урада іншых дзяржаў, дала 1.250 абедаў і ўсемагчымых прыёмаў, 7.500 аўдыенцый, зрабіла 23 афіцыйныя візіты і 25 вандроўных паездак у іншыя краіны, уручыла 75 тысяч ордэнаў, прысутнічала на адкрыцці 84 школ, 52 шпіталяў, атамнай электрастанцыі і двух тунеляў. Апрача таго, яна выступіла з 25 навагоднімі прамовамі, даручыла сваім сакратарам даць адказы на 1.300 000 пісьмаў сваіх падданых, нарадзіла чатырох дзяцей, шануючы свой каралеўскі род.

Усе гэтыя падлікі падрабязна змяшчаліся ў газетах. А некаторыя друкаваныя выданні пайшлі далей. Разам з заслугамі каралевы яны пачалі лічыць, колькі грошай за гэты час атрымала каралева з грамадскай казны на ўтрыманне ўласнай сям'і. І выйшла, што ёй штогод выдавалася за яе дзяржаўныя клопаты па 3,2 мільёна долараў. Гэткі юбілейны рахунак здзівіў англічан. І нягледзячы на тое, што многія з іх па старой традыцыі вельмі прыхільна ставяцца да каралеўскага дому, усё ж выказваюць думку, што каралева наогул дарагавата абыходзіцца для Вялікабрытаніі.

### ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА

Вось ужо некалькі гадоў такійскія гарадскія ўлады беспаспяхова спрабуюць разабрацца са сваімі фінансавымі цяжкасцямі. У бюджэце вялікага Токіо столькі дзірак, што нават пры самым умелым кіраванні немагчыма звесці канцы з канцамі. У студзені губернатар сталіцы прыняў рашэнне скараціць штаты муніцыпальных служачых. Аднак і на гэту меру не ўскладаюць асаблівых надзей. Больш надзейнай здаецца латарэя, значная частка даходаў ад якой паступае ў гарадскую казну. У 1970 годзе латарэйных білетаў было выпушчана ў Токіо на 3,4 мільярда іен, у 1975 — на 6,5 мільярда. У гэтым годзе сума перавысіць 10 мільярдаў іен. Але гарадскім уладам зноў давядзецца павялічваць штаты служачых — на гэты раз за лік прадаўцоў латарэйных білетаў.

### ТАЙНЫ СТАРАЖЫТНАГА ЎЗГОРКА

Праз тысячагоддзі „загаварыў" нічым не адметны з выгляду ўзгорак ля вёскі Шамірам у перадгор'ях Арагаца. Раскапанае тут месца пахавання чатырохтысячагадовай даўнасці прадставіла археолагам надзвычай цікавыя знаходкі.

У камеры плошчай 17 квадратных метраў знойдзены размаляваны гліняны посуд, бронзавыя катлы з ручкамі, абсідыянавыя наканечнікі стрэл, бронзавыя ўпрыгожанні, сотні маленькіх сердалікавых пацерак.

У больш позніх слаях узгорка, якія датуюцца X-XI стагоддзямі да нашай эры, таксама нямала знаходак.

На Шамірамскім некропалі вучоныя зрабілі адкрыццё, якое, на думку спецыялістаў, унясе пэўныя карэктывы ў навуку аб старажытным мастацтве. Ім удалося выявіць узоры манументальнай скульптуры.

### ЖАНЧЫНЫ-ДОЎГАЖЫХАРКІ

Згодна з перапісам насельніцтва, які праводзіўся ў 1926 годзе, у Балгарыі налічвалася 158 доўгажыхароў. Гады сярэдняя працягласць жыцця балгарскай жанчыны складала 45-46 гадоў.

На 1 студзеня 1975 года ў Балгарыі зарэгістравана 2517 чалавек ва ўзросце 95-99 гадоў і 228 — ва ўзросце старэй чым сто гадоў. З іх 192 — жанчыны і 36 мужчын. На 1 студзеня 1976 года ў Балгарыі зарэгістравана 2290 чалавек ва ўзросце 95-99 гадоў. З іх 1600 — жанчыны. Сярод 351 стагадовага жыхара 296 складаюць жанчыны.

Усе 296 балгарскіх жанчын, якім больш чым 100 гадоў, — маці, і амаль усе яны маюць па некалькі дзяцей.

## САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ 60-ГОДДЗЯ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА



*У Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна.*

Сучасная Беларусь з'яўляецца рэспублікай высокаразвітай індустрыі, буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, перадавой навукі і культуры. Цяпер прамысловасць рэспублікі вырабляе за 18 дзён столькі прадукцыі, колькі давала за ўвесь 1940 год.

Але справа не толькі ў велізарных колькасных, але і якасных зменах, якія адбыліся ў прамысловасці рэспублікі. Створаны новыя галіны, узбагаціўшыя структуру прамысловай вытворчасці: аўтамабілебудаванне, трактарабудаванне, радыёэлектроніка і дакладнае прыборабудаванне, нафтаперапрацоўчая і нафтадабываючая прамысловасць, вытворчасць мінеральных угнаенняў і сінтэтычнага валакна, матацыклаў, гадзіннікаў, тэлевізараў, халадзільнікаў і іншых вырабаў. Беларусь па праву называюць рэспублікай вялікай хіміі. Яна дае краіне мінеральныя угнаенні, пластмасы, сінтэтычнае валакно. Хімію ў рэспубліцы прадстаўляюць такія сучасныя, з найноўшай тэхнікай прадпрыемствы, як вытворчае аб'яднанне „Беларуськалій", Полацкі і Гродзенскі хімкамбінаты. Светлагорскі завод штучнага валакна, буйнейшы ў Еўропе Магілёўскі хімічны завод, Беларускі шынавы камбінат.

Важнай галіной беларускай індустрыі стала машынабудаванне. Яно прадстаўлена мінскімі трактарным, аўтамабільным, маторным заводамі, Беларускім аўтазаводам, станкабудаўнічымі заводамі ў Мінску, Оршы і шматлікімі іншымі прадпрыемствамі.

Цяпер БССР, займаючы адзін працэнт тэрыторыі краіны і маючы чатыры працэнты насельніцтва СССР (207,6 тысяч квадратных кіламетраў і 9.400 тысяч чалавек), дае каля 16 працэнтаў хімічных валокнаў, больш 15 працэнтаў трактараў, каля 43 працэнтаў калійных угнаенняў, 22 працэнты матацыклаў, 14 працэнтаў падшыпнікаў качэння, 14 працэнтаў складаных металарэжучых станкоў, якія вырабляюцца ў СССР.

Салідная доля прадукцыі беларускай прамысловасці і высокая яе якасць забяспечылі ёй экспарт у 100 краін свету.

Калгасны лад ператварыў Беларусь у край перадавой высокамеханізаванай сельскай гаспадаркі. Так, у 1976 годзе было сабрана 7400 тысяч тон збожжа, 14.174 тысячы тон бульбы, 122 тысячы тон ільновалакна, 781 тысяча тон мяса.

Ураджайнасць зерневых культур склала ў мінулым годзе 26,7 цэнтнера з аднаго гектара, бульбы — 168 цэнтнераў.

Развіццё сельскай гаспадаркі дасягнута на падставе грамадскай формы гаспадарання, шырокай механізацыі, хімізацыі, меліярацыі забалочаных зямель. Дастаткова сказаць, што ў мінулым годзе сельская гаспадарка рэспублікі атрымала 15.402 трактары, 9.707 грузавых і спецыялізаваных аўтамашын, 3862 збожжавыя камбайны і шмат іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, 5704 тысячы тон мінеральных угнаенняў і 155 тысяч тон кармавых дадаткаў. За гады Савецкай улады на Беларусі пераўтворана ва ўраджайныя палі, лугі і пашы больш 2 мільёнаў гектараў раней вельмі вільготных і забалочаных зямель.

На Беларусі, як і па ўсёй краіне, з году ў год расце дабрабыт народа. У 1976 годзе сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых склала 134,5 рубля. Заработная плата з улічваннем даплат і ільгот з грамадскіх фондаў дасягнула ў сярэднім 184 рублёў у месяц, павялічылася на 6 працэнтаў у параўнанні з 1975 годам. Расце дэталічны тавараабарот дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю, спажыванне найбольш каштоўных прадуктаў і прамысловых тавараў, расце таксама аб'ём бытавых паслуг насельніцтву.

На Беларусі робіцца ўсё магчымае для паляпшэння жыллёва-бытавых умоў працоўных. За апошнія гады штогод паляпшаюць свае жыллёвыя ўмовы каля 380 тысяч чалавек. Бурнае развіццё атрымалі народная асвета, навука і культура. Даўно ўжо ліквідавана непісьменнасць, уведзена ў асноўным абавязковае ўсеагульнае сярэдняе навучанне. У мінулым годзе кожны трэці жыхар рэспублікі быў ахоплены адным з тыпаў навучання. Толькі ў агульнаадукацыйных школах вучылася 1,7 мільёна, у сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах — 51 тысяча, у тэхнікумах і іншых спецыялізаваных сярэдніх навучальных установах — 159 тысяч, у вышэйшых навучальных установах — 165 тысяч чалавек.

Цяпер на Беларусі існуе добрая навуковая база. У ёй працуюць 32 тысячы навуковых работнікаў, у тым ліку 9,5 тысяч дактароў і кандыдатаў навук. Яны распрацоўваюць фундаментальныя праблемы фізікі, матэматыкі, ядзернай энергетыкі, біяхіміі і шэраг іншых. Толькі ў 1976 годзе ўстановы Акадэміі навук БССР закончылі навуковыя работы па 40 актуальных тэмах, атрымалі 592 аўтарскія пасведчанні аб вынаходніцтве, увялі ў вытворчасць больш 200 навінак, якія далі ашчаднасць народнай гаспадарцы на 38,3 мільёна рублёў.

Расквітнела сацыялістычная па зместу і нацыянальная па форме беларуская культура. Творы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў сёння шырока вядомы не толькі савецкаму, але і замежнаму чытачу.

Паспяхова развіваецца ў Беларусі тэатральнае мастацтва, прадстаўленае 14 прафесіянальнымі і больш 40 народнымі самадзейнымі тэатрамі, сістэма друку, кнігавыдавецтва, радыё і тэлебачанне. Тыраж выдадзеных кніг і брашур перавысіў у 1976 годзе 34 мільёны экземпляраў. Гэта больш чым тры кніжкі на кожнага жыхара Беларусі.

У рэспубліцы праведзена вялікая работа па паляпшэнню аховы здароўя працоўных. Колькасць лекараў дасягнула 29 тысяч, а колькасць бальнічных ложкаў — 110,9 тысячы.

**С. Ясінскі,**
кандыдат філасофскіх навук







**18.VI — Sobota** 6.30 RTV szk. śred. Powtórz. wiad. z biol. 7.00 Tech. Rol. Powtórz. wiad. z mech. rol. 9.00 Bajkowy Poranek. 9.50 Ostatnie okrążenie — fab. film TP. 13.45 Program dnia. 13.50 Radzimy rolnikom. 14.00 STUDIO 8.

**Niedziela — 19.VI** 8.00 RTV szk. śred. Nasze spotkania. 8.20 Alarm przeciwpoż. 8.30 Now. w domu i zagr. 8.45 Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino TDC. Przygody psa Cywila. 9.35 Antena. 10.00 W Starym Kinie. Ten poczciwy pan Wiktor — film fr. 11.40 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Klub sześciu Kont. 13.15 Dla dzieci: Mój przyjaciel samochód. 13.55 Bank Miast: Limanowa-Skoczów. 15.00 Los. Dużego Lot. 15.15 Odra Opole contra goście — teletur. 16.25 Tele-echo. 17.25 Jak utopić doktora Mráčka — kom. czech. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Mecz piłkarski Polska-Brazylia.

**Poniedziałek — 20.VI** 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Jeden dzień — rep. 16.50 Równikowy chrzest — rep. 17.00 Teleferie. 18.15 Janosik — serial. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. I. Turgieniew „Stepowy król Lir" 22.05 Camerata. 22.40 Dziennik.

**Wtorek — 21.VI.** 9.00 Bajkowy poranek. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Camerata. 17.40 Kółko i krzyżyk. 17.55 Magazyn motor. 18.15 W Starym Kinie. Ze świata burleski. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Pios. — Opole 77. 21.50 Fakty, opinie, hip. 22.25 W drodze na corridę — hiszp. nowela film. 22.55 Dziennik.

**Środa — 22.VI.** 8.50 Tajemnica archiwum — sens. film NRD. 10.00 Festiwal Pios. — Opole 77. 15.55 Program dnia. 16.00 Studio fest. Cameraty. 17.00 Kino TDC. Ewa plus Ewa. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Pięć pytań o handlu zagr. — teletur. 18.35 Wiosna w Quibec — film dok. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Rodzina Straussów — ser. ang. 21.30 Festiwal Pios. — Opole 77. 22.40 Dziennik.

**Czwartek — 23.VI.** 9.00 Bajkowy Poranek. 10.00 Festiwal Pios. — Opole 77. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio fest. Camerata. 17.00 Teleferie. 17.50 Reportaż wojskowy. 18.10 Pegaz. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Kojak — serial am. 21.30 Festiwal Pios. — Opole 77. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 24.VI.** 8.35 Trzy dni z życia Wani Siemionowa — film dla dzieci. 10.00 Festiwal Pios. — Opole 77. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio fest. Camerata. 17.00 Dla dzieci: Lato z książką. 17.30 Obrazki baletowe do walców Jana Brahmsa. 17.55 Minerzy podniebnych dróg — serial radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Prawo Archimedesa — film TP. 21.45 Sygnały — magazyn. 22.15 Teatr Małych Form. I. Iredyński „Próba". 22.45 Dziennik. 23.00 Festiwal Pios. — Opole 77.




**Piątek 17VI** — 8.55 Spektakl. 9.40 Koncert. 14.50 Film fab. 18.15 Koncert. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Wieczór aut. komp. A. Pietrowa.
**Sobota 18VI** — 10.30 Śpiewa L. Jurczenko. 11.25 Film fab. 17.40 W świecie zwierząt. 18.55 Film fab. 20.30 P. nożna. Torpedo (M) — Spartak (M). Puchar. 21.30 Koncert.
**Niedziela 19VI** — 12.40 Film fab. 17.15 Filmy anim. 17.45 Klub film. 18.45 Film fab. 20.30 Koncert. 21.40 Mistrz. ZSRR w kolarstwie.




**Białowieża** Partyzanci Kowpaka radz. 21—22. Pirat — meks. 23—24. Ten cudowny piasek partyzanckich dróg — jug. 25—26.

**Bielsk Podl.** Strzały Robin Hodda — radz. 21—22. Latający talerzyk — pol. 23—24. Piraci na Pacyfiku — rum.-fr. 25—26.

**Czeremcha** Zbrodnia pod błękitną gwiazdą — czes. 21—22. Krótkie życie — pol. 25—26.

**Czyże** Tak szalona, że może zabić — fr. Rudy lis — NRD 22—26.

**Dubicze Cerkiewne** Dzień szarańczy — USA. Mój pies Wułkan — radz. 22—26.

**Hajnówka** Gehenna — pol. 20—22. Inna — pol. 24—25. Nie ma dymu bez ognia — 26.

**Kleszczele** Włoch szuka żony — wł. 21—22. Alicja już tu nie mieszka — USA 23—24. Najlepsza w świecie — pol. 25—26.

**Michałowo** Drapieżca — fr. 21—22. Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. 23—24. Spóźniona miłość — radz. 25—26.

**Mielnik** Od siedmiu wzwyż — USA 22. Przepraszam, czy tu biją — pol. 25—26.

**Milejczyce** Zuzanna i zaczarowany pierścień —NRD 21—24. Eliksir młodości — rum. 25—26.

**Narew** Motylem jestem — pol. Dwaj mężczyźni meldują powrót 22—26.

**Narewka** Rodzina — pol. Z własnej nieprzymuszonej woli — rum. 22—26.

**Nurzec** Pułapka w delcie Dunaju — rum. 21—22. Stróż plaży w sezonie zimowym — jug. 23—24. Nie ma dymu bez ognia — fr. 25—26.

B.Z.Graf. Zam. 1410 B-4

 

ДРУЖБА І СУПРАЦОЎНІЦТВА

## НОВАЯ ЎМОВА

У прысутнасці вучоных — спецыялістаў Беластоцкай палітэхнікі і Мінскага палітэхнічнага інстытута была падпісана ў Беластоку бестэрміновая ўмова аб супрацоўніцтве абодвух вузаў. У сувязі з гэтым фактам мы папрасілі рэктараў выказаць свае ўражанні.

Рэктар Мінскага палітэхнічнага інстытута праф. др Валянцін Ткачоў: „Супрацоўніцтва ў нас развіваецца ў розных галінах: вучэбна-метадычнай, навуковай, грамадска-палітычнай, паміж студэнтамі. Візіт на ўзроўні рэктараў дазволіў ацаніць дасягненні, убачыць слабыя бакі і намеціць далейшыя планы. Вузы нашы дапаўняюць адзін аднаго. Вельмі цікавымі могуць быць вынікі супрацоўніцтва паміж паасобнымі факультэтамі, як, напрыклад, аўтатрактарным факультэтам нашага інстытута і механічным факультэтам Беластоцкай палітэхнікі. Мы хочам у далейшым развіваць наш абмен ва ўсіх галінах. Вельмі добрае ўражанне ў мяне выклікаў стыль пабудовы комплекса Беластоцкай палітэхнікі. Гэта дасканалая база для новых навуковых дасягненняў“.

Рэктар Беластоцкай палітэхнікі праф. др Тадэуш Бэлдоўскі: „Многія нашыя супрацоўнікі прымалі ўдзел у навуковых канферэнцыях, якія праводзяцца і ў нас і ў Мінску. Праводзіўся абмен вучоных — нашы супрацоўнікі ездзілі на кансультацыі і кароткатэрміновыя стажыроўкі ў Мінскі інстытут. У нас чыталі лекцыі і чытаюць савецкія вучоныя. Вельмі добра развіваецца абмен студэнтамі. Кожны год па 20 асоб ад нас выязджае ў СССР на практыку. Яны, працуючы на прадпрыемствах, многаму вучацца. Думаем распачаць абмен у галіне студэнцкага навуковага руху. Вопыт Мінскага інстытута можа нам многа памагчы“.

*

Дэлегацыю мінскіх вучоных узначальваў рэктар Мінскага палітэхнічнага інстытута праф. др Валянцін Ткачоў. Гэта малады вучоны. Спецыяліст у галіне фізікі паўправаднікоў. Ён адзін з наймалодшых рэктараў у Савецкім Саюзе. Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР. Ураджэнец Мінска, дзе закончыў сярэднюю беларускую школу і Беларускі дзяржаўны універсітэт. Мінскі палітэхнічны інстытут, рэктарам якога з'яўляецца праф. В. Ткачоў, мае 26 тысяч студэнтаў, якія вучацца на 21 факультэце.

**Вера Леўчук**

## ФЭСТЫН У ЛІТВІНАВІЧАХ

І зноў аўтобус наш (29 мая) з прадстаўнікамі ГП і харавым калектывам БГКТ імчыцца па істужках шасейных дарог праз збожжавыя пасевы і сенажаці, праз вёскі і мястэчкі, а праз дзве гадзіны дарогі прыбыў на пляц ля святліцы ў вёсцы Літвінавічы, што ў гміне Нурэц.

Сёлетні фэстын прысвечаны тут 60 гадавіне Вялікага Кастрычніка і спалучаны са святам селяніна. У яго арганізацыю ўключыліся гмінныя ўпраўленні ў Мілейчыцах і Нурцы, і таму прысутнічаюць тут іх прадстаўнікі: дэлегацыя з Нурца на чале з начальнікам гміны Мікалаем Касцюком, з Мілейчыц — на чале з I сакратаром гміннага камітэта ПАРП Віталісам Лубай, а з ГП БГКТ — на чале са старшынёй Мікалаем Самоцікам. Ваяводскія партыйныя ўлады прадстаўлялі: Тадэуш Свідзінскі ад ПАРП, Ян Цікоўскі — ад ЗСЛ.



*Ганаровы прэзідыум фэстына. З дакладам выступае Вінцук Склубоўскі.*



*На фэстыне з канцэртам выступіла харавая група БГКТ з Беластока „Каласкі“.*



*Конкурс на тэму ашчаднасці і крэдытавання вядзе Яўгенія Раманюк з Нурца.*

Адкрыў урачыстасць і сардэчна прывітаў усіх удзельнікаў фэстына старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народу ў Нурцы — Багдан Налэнцкі.

З дакладамі выступілі: з нагоды свята селяніна — I сакратар ГК ПАРП Яўген Шышко, з нагоды святкавання 60 гадавіны Кастрычніка — член Прэзідыума ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі.

Мастацкая частка складалася з выступленняў харавой групы „Каласкі“ і тэатральнай групы, якая падрыхтавала п'есу „Мараль Наталлі Зотавай“.

Затым адбыўся конкурс на тэму ашчаднасці і крэдытавання спулдзельчых банкаў. Пасля паказ моды і дамашніх прылад таксама зацікавіў прысутных. ГС у Нурцы забяспечыў фэстын прадуктамі і напіткамі.

Пры арганізаванні фэстына шмат напрацаваліся: працаўнік ГП — Міхась Вішанка і жыхары вёскі Літвінавічы — Мікалай Куптэль, Аркадзь Навіцкі, Анатоль Аўласюк і Марыя Страпчук. Усім ім належыцца сардэчная падзяка.

**Тэкст і фота М. Хмялеўскага**



*Паказ моды і дамашніх прылад вядзе прадстаўнік ГС з Нурца — Сцяпан Мартынюк.*



*Удзельнікі фэстына.*

СУСТРЭЧЫ

## „ТАРТАК“

„Тартак“ Івана Пташнікава ўпершыню сустрэў я на старонках „Полымя“. Было гэта і першае знаёмства з маладым (у той час) празаікам. Загаловак аповесці прадвяшчаў (не прыцягальную) вытворчую тэму і спыніўся я ля „Тартака“ па „прафесіянальнай“ цікавасці (у маладосці працаваў я ў тартаку).

Вочная стаўка ашаламіла. Не зманлівасцю: „Тартак“ — кніга аб вайне. Быў я ўражаны талентам, які пакараў з ходу і безапеляцыйна.

Вайна ў Івана Пташнікава праходзіць не па салдацкіх траншэях, разгортваецца не воінскімі эшалонамі. Уцягае яна ў пагібельны вір ні ў чым не вінаватых беларускіх сялян.

Немцы рэквізавалі збожжа і над пагрозай знішчэння вёскі загадалі вяскоўцам даставіць яго ў раён. Збожжанарыхтовачны абоз і з'яўляецца канвой аповесці. Усё тут звычайнае. Як і загаловак, амаль празаічнае. Героі аповесці не здзяйсняюць ніякіх подзвігаў. У боязі за сваіх блізкіх вязуць немцам „нарыхтоўку“. Аднак гэта бязвыхаднае падарожжа. Абоз рухаецца па ахопленай баямі тэрыторыі. І трапляе ў трагічныя клешчы.

У атмасферы жаху, якая пранізвае ўсю аповесць, праяўляюцца характары людзей. Трапіўшы ў праўдзівае пекла, яны, апрача аднаго „шкурніка“, клапоцяцца больш пра сваіх блізкіх, пакінутых у вёсцы, чым пра сябе. Гэтая антымістычная рыса простых беларускіх людзей атрымлівае памеры філасофскага абагульнення.

Вайна, калі на яе глядзець з розных пунктаў, выглядае па-рознаму. Іншая яна ў вачах камандуючага, інакш на яе глядзіць пехацінец са свайго акопчыка. „Тартак“ — вайна, убачаная вачыма селяніна, найбольш мірнага жыхара нашай зямлі, а па мастацкіх якасцях — адна з найлепшых кніг беларускай літаратуры наогул.

Вітаем яе на польскай мове!

**Жорж Ювэ**

Iwan Ptasznikau: Tartak. Przełożył Bolesław Monkiewicz. LSW, 1977, str. 268, zł 20.

(Працяг са стар. 1)

## Нарэшце добры рэпертуар

мі і дыпломнымі работамі. Але галоўнае тут — добрая воля настаўніка. Для дзяцей конкурс — гэта і атракцыя, і прыемнасць, і нават узнагарода за вывучэнне роднай мовы. Арганізатары конкурсу пастараліся нават, каб кожнае дзіця, прыехаўшае на конкурс, атрымала нейкі, хоць невялічкі, падарунак. І варта, каб настаўнікі мелі ўсё гэта на ўвазе. З іншага боку, удзел школы ў конкурсе беларускай песні павінен мець уплыў на ацэнку працы настаўнікаў беларускай мовы. У конкурсе ж праяўляецца і любоў да беларускай песні, і відаць праца ў чысціні вымаўлення, ды і настаўнік нямала працы ўкладзе ў падрыхтоўку да конкурсу, нават у пошукі рэпертуару. Добра, калі ў школе знойдзецца спецыяліст па музыцы ды захоча дапамагчы. Тады і вынікі намнога лепшыя. Думку гэтую падаю пад развагу куратарыі, асабліва візітатара беларускай мовы. Нельга ж памінуць такога вялікага ўкладу грамадскай працы ў нашу агульную справу.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



 

 

## ТАК БЫВАЕ...

# МУЖЫ І ЖОНКІ

Жонка біла мужа ў морду. Біла ўсюды .Будучы ў гасцях, калі Кастусь глыбейшую хопіць і, раздабрыўшыся, грошы і душу гатовы аддаць быў сваім сябрам. Кастусь не адбіваўся. Бараніўся толькі. Налаўчыўся хапаць жонку за рукі, і Маргарыта тады плявалася страшэнна: і ў твар, і ў вочы, і на адзенне. Аднойчы сусед адкрыў дзверы і, убачыўшы гэтую незразумелую для яго сцэну, запытаў: „Вы танцуеце, ці што?“

Яна толькі па твары біла. Біла яна па твары і сваіх дзяцей. Дачку і сына. Нават тады, калі яны падраслі. Дачку часам абараняў бацька, часам брат. Нямала паплакала яна. Плакала і тады, калі яе бацька стаў часцей п'яны прыходзіць дамоў. Няздольны быў абараніцца ад маці, а яна наляскае яго па твары так, што назаўтра пасінячаны ходзіць. Тады мала калі паказваўся ён людзям — нешта рабіў у сваім агародзе, пры сваёй хаце і летняй кухні, якія сам пабудаваў. Чалавек быў здольны, многа чаго ўмеў зрабіць. У каго прадзіравіцца бойлер ці цагелкі ў пліце, каму трэба было што-небудзь зашвайсаваць — клікалі Кастуся. Любілі яго за тое, што быў ён слоўны, што дакладна выконваў работу. Людзі ахвотна частавалі яго гарэлкай, калі заканчваў даную работу. Кастусь тады вяртаўся позна дахаты, бо ведаў, што жонка ўжо моцна спіць. Піў усё больш. І вось Кастусь захварэў — „марзкасць печані“. І падмёр, бядняга, на працяту двух месяцаў. На пахаванне з'ехаліся ўсе сваякі, бліжэйшыя і далейшыя. Прыехаў таксама дваюрадны брат яго жонкі з Торуня — Адам.

Дзень пахавання быў пачаткам новай сямейнай трагедыі, звязанай з асобай Адама. Адам быў залётны да жанчын, умеў ім падабацца. Прыгожа спяваў і танцаваў. Кахала яго жонка. Асабліва тады, калі яны разам бывалі на нейкіх урачыстасцях. Адам заўсёды так сардэчна ўхажваў за ёю, быццам быў закаханы па вушы і ніхто яго больш не цікавіў. Але зусім было інакш, калі бываў дзе-небудзь без жонкі. Да жанчын ён так „таленавіта“ заляцаўся, што не глядзеў ні на што — ці гэта старэйшая жанчына ці малодшая, ці гэта жонка сябра ці сваяка. Як бусел, які, не разбіраючыся, старых і малых жаб з'ядае. І многія верныя дагэтуль жонкі здраджвалі мужам сваім з палавым разбойнікам Адамам, частавалі яго і фінансавалі.

Але вернемся да пахавання Кастуся. Прыехаў Адам без жонкі. Сардэчна прывітаўся з сястрою, пацалаваў неяк асабліва, паспачуваў. Сваімі адносінамі супакоіў Маргарыту і, мусіць, прыпомніў ёй і сабе ранейшыя грашкі, якія мелі месца падчас яго пабывак у Беластоку і падчас пабывак Маргарыты ў Торуні. Ніколі не прыходзіла ў галаву жонцы Адама і мужу Маргарыты, што дваюрадны брат з сястрою...

Вярнуўшыся з могілак, Адам астаўся начаваць у сястры. Тады яшчэ ніхто ні ў чым іх не падазраваў. Але стаў ён паяўляцца ў Маргарыты ўсё часцей і часцей. Тады пачала выяўляцца ўся праўда. Нарэшце ён кінуў сваю жонку і пераехаў да Маргарыты. Супраць гэтага выступілі дарослыя ўжо дзеці Кастуся, сваякі. А яго жонка з Торуня не магла сабе даравацъ, што яна была такая сляпая і наўная падчас пабыўкі Маргарыты ў яе хаце. Прыязджала яна з дачкою, якая вучылася ў чацвертым класе ліцэя, але была ўжо замужняя, прасіць Адама, каб вярнуўся ён дахаты. А былы сардэчны муж і бацька выскачыў да іх, як раз'юшаны звер. Не знесла гэтага ўдара яна. На другі дзень пасля „матуры“ дачкі атруцілася. На пахаванне не паехаў Адам. Выслаў толькі спачувальную тэлеграму дачцы...

Праз няпоўных два месяцы ад смерці сваёй жонкі Адам пайшоў з Маргарытаю ў ЗАГС.

**Міхась Сваяк**

## ФАЛЬКЛОР

ЛЮБОЎНАЯ




*Ой, хутчэй бы вэчуор,*
*то й повэчэрэло б,*
*можэ б мое сэрдэнько*
*той повэсэлело б,*
*можэ б мое сэрдэнько*
*той повэсэлело б.*
*Ой, хутчэй бы вэчуор,*
*то й сонэчко зайшло б —*
*можэ б мое сэрдэнько*
*то й до мэнэ прыйшло,*
*можэ б мое сэрдэнько*
*то й до мэнэ прыйшло.*
*Ой, нэ так до мэнэ,*
*як до мэі хаты: —*
*— Упусті, діевчыно,*
*коб нэ чула маті...*
*Упусті, діевчыно,*
*коб нэ чула маті...*
*Діевчына ўпускала,*
*цяжко ўздыхала,*
*а як упустіла —*
*правдонькі пытала;*
*а як упустіла —*
*правдонькі пытала:*
*— Скажы, хлопчэ, правду:*
*чы ты мэнэ любіш?*
*Чы ты мэнэ любіш?*
*Чы з мэнэ сміеешсе?*
*Чы ты мэнэ любіш?*
*Чы з мэнэ сміеешсе?*
*До другоі ходіш —*
*мніе й нэ прызнаешсе?*
*До другоі ходіш —*
*мніе й нэ прызнаешсе?*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## НОВЫ ГУРТОК

З прыемнасцю паведамляем, што з пачаткам гэтага года ў вёсцы Рагачы працуе новы самадзейны драматычны гурток. Вырас ён на ўраджайнай глебе супрацоўніцтва настаўнікаў школы з бацькоўскім камітэтам. Галоўную ролю рэжысёра, кіраўніка і акцёра ўзяла на сябе настаўніца Галіна Кердзялевіч. Першая прэм'ера адбылася на школьнай сцэне. Потым, склаўшы багатую праграму з фальклорных песень і сцэнак, калектыў выступаў у Беластоку у сувязі з дэкадай культуры вёскі. Быў госцем беластоцкай фабрыкі „Пасманта“.

Малады самадзейны калектыў удзельнічаў ужо ў гэтым годзе ў конкурсе беларускіх драматычных калектываў, які адбываўся ў Бельску. Там рагачоўцы занялі трэцяе месца.

Потым з „Паўлінкай“ гурток наведаў Чаромху і суседнія вёскі.

Цяпер, у калектыве аб'яўлены летні адпачынак. А з пачаткам восені ўдзельнікі зноў прыступяць да працы. А планы ў іх на будучы год багатыя і вельмі цікавыя. (яч)

## Трагедыя на дарозе

Мы ехалі з Клюковіч у Мілейчыцы. Было халаднавата, безупынна марасіў дождж. І раптам... У прыдарожным рове трактар уверх калёсамі, а з другога боку — разбіты воз. Трактарыста і возчыка ўжо не было. Толькі нейкі хлапчук хадзіў са сваімі красулямі. На жаль, ён не мог нічога расказаць аб трагедыі, якая разыгралася на гэтай дарозе. Трактар меў рэгістрацыйны нумар AG-6023, а на возе знаходзілася драўляная клетка для перавозу свіней і забіты парсюк.

Сустрэчныя людзі таксама не змаглі мне растлумачыць, што тут здарылася. Так я і расстаўся з вывернутым трактарам і разбітым возам, ды сам са сваімі здагадкамі, што гэтае няшчасце — вынік людской лёгкадумнасці.

На нашых дарогах з кожным днём паяўляецца ўсё больш самых розных машын. Прапарцыянальна да гэтага нарастае пагроза няшчасных выпадкаў. Асабліва возчыкі вядуць сябе на рухлівых дарогах надта лёгкадумна. Ведаю гэта з уласнага вопыту. Аднойчы за Козлікамі назіраў я вось такі абразок: воз з канём ішоў правай паласой дарогі, а яго ўласнік — сцежкай на левай ускраіне. Іншым разам, за Сухавольцамі, еду сабе на машыне, а перада мной дзве падводы. Прабую іх абагнаць, і ў гэты момант задні конь раптоўна паварочвае налева, загароджваючы мне дарогу. Інстынктоўна ўсёй сілай ног цісну тормаз і спыняюся ў некалькіх сантыметрах перад калёсамі воза. І тады ўбачыў, што возчык аставіў свайго буланага самацёк, а сам перасеў да суседа, які ехаў першы, каб супольна выкурыць папяроску і абмяняцца весткамі з кірмашу.

Некалькі такіх і падобных здарэнняў мог бы расказаць кожны, хто часта ездзіць па нашых вузкіх і не вельмі прыстасаваных да нарастаючага руху дарогах. Вывад з іх просты: будзьма болей асцярожныя і разважлівыя!

(вр)

фота аўтара



## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Мікалай Аўласюк

Вядома было ўсім аднавяскоўцам ў Новым Беразове (гміна Гайнаўка), што Мікалай Аўласюк майстраваты чалавек. Не канчаў ён ані якіх школ, а ўмее выконваць работы і мулярскія, і бетонныя, і кавальскія, і слёсарскія і іншыя. Калі ён абрабляў зямлю канём, дык тады сам яго падкоўваў і сам рабіў падковы. Ён адзін з першых у вёсцы механізаваў многія работы, калі абсталяваў крайзэгу. А было гэта яшчэ падчас нямецкай акупацыі. Воз-балон зрабіў сам ужо пасля вызвалення. Ад таго часу набывае ўсё больш і больш сельскагаспадарчых машын. І вось гэтыя машыны сам ён рамантаваў і далей рамантуе многім сялянам.

У 1960 годзе пачаў збіраць рознае жалества і розныя часткі і пачаў мантаваць трактар. Да яго абсталяваў матор ад танка і жалезныя калёсы. І ўжо ў 1961 годзе трактарам сваёй уласнай прадукцыі араў зямлю і цягаў воз. У 1963 годзе Мікалай Аўласюк зрабіў другі трактар, больш дасканалы. Нейкі час добра яму паслужыў гэты жалезны конь. Ён яго яшчэ і цяпер часам выкарыстоўвае. Цяпер у асноўным працуе трактарам, купленым у ПГР-ы, які прызначыў яго на касацыю.

Далейшым тэхнічным дасягненнем Мікалая Аўласюка з'яўляецца бетанярка ўласнай прадукцыі, якая дзейнічае пры дапамозе рухавіка.

Добры з яго гаспадар. Для жывёлы пабудаваў вялікую абору размерам 25 на 10 метраў. Пры яе будове ўсё зрабіў сам. Вібрацыйнай пустачаркай падрыхтаваў пустакі. Сам зрабіў своеасаблівы грузапад'ёмнік, які значна аблегчыў працу пры будове, сам ставіў кроквы і крыў. У аборы абсталяваў механічныя паілкі, памяшканне для падрыхтоўкі корму свінням. Зрабіў таксама ў аборы спецыяльнае памяшканне, у якім знаходзіцца ванна. Умее ён зварваць жалеза, а без гэтай умеласці машыны проста немагчыма рамантаваць.



Гаспадарыць Аўласюк разам са сваёй жонкай Марысяй і сынам Мікалаем, які авалодаў слёсарскай прафесіяй і цяпер разам з бацькам займаецца рамонтам сельскагаспадарчай тэхнікі. Другі яго сын Іван вучыцца ў Бельску на механіка. Там жа жыве яго замужняя дачка.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага.**

## Музыка для кожнага

У Беластоку арганізаваўся гурток Аб'яднанай польскай музычнай моладзі (Стоважышэне Польскей Млодзежы Музычнэй). Сваю дзейнасць гурток распачаў канцэртам у Беластоцкай філармоніі.

Гэты рух развіваецца ў рамках Міжнароднай федэрацыі „Жэнес мюзікал“ (музычная моладзь), якая аб'ядноўвае зараз 35 дзяржаў з усіх кантынентаў. Пакуль што дзейнічае ён сярод студэнцкай моладзі ў большасці, але ўсё шырэй разгортваецца і па вёсках. Адбываюцца канцэрты, даклады, гутаркі аб музыцы, сустрэчы, збіранне народных песень, зацікаўленне фальклорам.

Новы гурток у Беластоку ставіць таксама заданне пашыраць музычную культуру сярод як найшырэйшых кругоў грамадства, весці ўсебаковую выхаваўчую акцыю сярод моладзі ў горадзе і на вёсцы. У праграме яго чытаем: „Хочам выхоўваць актыўных успрымальнікаў музыкі, якія будуць выконваць, прапагандаваць, разумець музыку і разумець ролю музыкі ў жыцці“.

Гурток хоча зацікавіцца беластоцкім фальклорам, музычным і спявачым рухам, які гуртуецца вакол БГКТ.

Сакратарыят беластоцкага гуртка музычнай моладзі знаходзіцца ў гмаху Беластоцкай філармоніі, вуліца Падлесная, куды можна пісаць і заходзіць, каб даведацца аб усіх цікавячых кожнага справах адносна музыкі. (вл)



 

